наша свабода

№17 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 КРАСАВІКА 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Беспрэцэдэнтны дакумент

## рыхтуецца ў Кангрэсе ЗША

**Міхась КАРПОВІЧ**

**У бліжэйшы час Кангрэс ЗША ўпершыню прыме рэзалюцыю па сітуацыі на Беларусі. Праект рэзалюцыі змяшчае вельмі жорсткую крытыку рэжыму А.Лукашэнкі і патрабуе ад амерыканскага прэзідэнта зрабіць усё магчымае, каб гарантаваць незалежнасць і свабоду Беларусі.**

Ініцыятарам рэзалюцыі №304 выступіў кангрэсмен-дэмакрат з штата Канектыкут Сэм Гэйдэнсан, бацькі якога паходзяць з Беларусі. За даволі кароткі час ён сабраў пад рэзалюцыяй подпісы 130 кангрэсменаў. 13 красавіка рэзалюцыя была ўхваленая Камітэтам міжнародных адносінаў Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ЗША, і цяпер яна накіраваная на разгляд поўнага складу Палаты прадстаўнікоў.

Рэзалюцыя заклікае да тэрміновага правядзення дыялогу паміж рэжымам Лукашэнкі і апазіцыяй, да аднаўлення ў Беларусі дэмакратычна абранага ўрада, патрабуе ад А.Лукашэнкі правесці законныя, свабодныя і справядлівыя парламенцкія выбары ў адпаведнасці са стандартамі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ). Кангрэсмены заклікаюць міжнародную супольнасць падтрымаць беларускую апазіцыю, працягнуўшы сустрэчы з законна абраным парламентам Беларусі.

Праект 304-й рэзалюцыі таксама ўтрымлівае шэраг заклікаў да амерыканскага прэзідэнта. Да Біла Клінтана звяртаюцца з патрабаваннем забяспечыць супрацоўніцтва з апазіцыйнымі дзеячамі Беларусі і іх падтрымку, падтрымаць бесперашкоднае паступленне інфармацыі ў Беларусь. Амерыканскі прэзідэнт мусіць аказаць ціск на расійскі ўрад, каб той больш не аказваў фінансавай дапамогі рэжыму Лукашэнкі, а забяспечыў павагу суверэнітэта Беларусі, асабліва ў свеце нелегітымнасці Лукашэнкі.

Рэзалюцыя таксама звяртаецца з заклікам да Біла Клінтана падрыхтаваць і прад'явіць у Кангрэс некалькі справаздачаў: пра сітуацыю з правамі чалавека і дэмакратычнымі пераўтварэннямі ў Беларусі, пра кіраванне рэжымам А.Лукашэнкі беларускай эканомікай, пра захады па перакананні расійскага ўрада спыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі, а таксама пра статус расійска-беларускай вайсковай інтэграцыі.

Міжнародны каардынатар Хартыі'97 **Андрэй САННІКАЎ** такім чынам пракаментаваў праект рэзалюцыі Кангрэса ЗША:

– Рэзалюцыя можа пакласці пачатак новай палітыцы ЗША і сусветнай супольнасці ў адносінах да Беларусі і рэжыму Лукашэнкі. Калі да гэтага часу ў такога кшталту дакументах асноўная ўвага звярталася на парушэнні правоў чалавека на Беларусі, адсутнасць дэмакратычных пераўтварэнняў, дык у дадзенай рэзалюцыі акцэнты расстаўленыя па-новаму.

Беларусь у рэзалюцыі Кангрэса разглядаецца як стратэгічна важная для міжнароднай супольнасці дзяржава, якую неабходна вярнуць на шлях дэмакратычнага развіцця. Упершыню робіцца выразная ацэнка неспрыяльнай ролі Расіі, якая падтрымлівае незаконныя беларускія ўлады. Расіі нагадваюць пра абавязальніцтвы паважаць суверэнітэт Беларусі згодна з мемарандумам аб гарантыях бяспекі ад снежня 1994 г. Нервовая рэакцыя на рэзалюцыю расійскага МЗС, які паўтарыў «міт пра волю народаў» да аб'яднання, сведчыць пра тое, што ў Расіі пасланы Кангрэсам сігнал успрынялі сур'ёзна.

У рэзалюцыі гаворыцца пра небяспеку беларускай сітуацыі для міжнароднай супольнасці, пра мілітарысцкую тэндэнцыю беларускага рэжыму. Менавіта таму Беларусь і Расію папярэджваюць супраць магчымых планаў размяшчэння на тэрыторыі Беларусі ядзернай зброі, парушэння міжнародных пагадненняў у галіне ваеннай бяспекі, гандлю зброяй. ►

*Заканчэнне на стар.3*

**чарнобыльскі ШЛЯХ 2000**



**МЫ – НАРОД!**

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Аляксандр Лукашэнка зноў пагражае Захаду. Учора ён яшчэ раз заявіў, што паміж Беларуссю і Расіяй існуе дамоўленасць аб размяшчэнні 300-тысячнай вайсковай групоўкі дзвюх краінаў на заходняй мяжы Беларусі.** У прыватнасці, А.Лукашэнка заявіў, што ўжо былі распрацаваныя канкрэтныя дакументы па структуры, штатным раскладзе, колькасці і дыслакацыі групоўкі. Па ягоных словах, юрыдычна ўсе гэтыя дакументы будуць зацверджаныя прыкладна ў канцы траўня-пачатку чэрвеня на чарговым пасяджэнні Найвышэйшага дзяржаўнага савета.

■ **З учарашняга дня стаўка рэфінансавання ў Беларусі панізілася з 130% да 110% гадавых. Рашэнне пра гэта прыняў Нацыянальны банк Беларусі.** Стаўка рэфінансавання – найважнейшы фінансавы інструмент, які вызначае кошт крэдытных рэсурсаў. Памер стаўкі залежыць ад афіцыйнага ўзроўню інфляцыі. У сакавіку інфляцыя склала толькі 5,8% (у лютым – 9,3%). Таму стаўка рэфінансавання была таксама скарэкціраваная.

■ **Пяты дзень мітынгуюць студэнты ў сталіцы Малдовы – Кішынёве.** Акцыі пратэсту пачаліся яшчэ 15 красавіка і былі скіраваныя супраць адмены права бясплатнага праезду студэнтаў у гарадскім транспарце. Мэр Кішынёва Серафім Уракян запэўніў студэнтаў, што гэтае права за імі захаваецца. Прэм'ер-міністр Малдовы Думітру Брагіш на перамовах з лідэрамі студэнтаў пацвердзіў абяцанні мэра. Апроч таго, ён паабяцаў з 1 красавіка падвысіць стыпендыі амаль удвая. Аднак студэнты выстаўляюць усё новыя патрабаванні, у тым ліку і палітычныя, паведамляе агенцтва «РИА Новости». Пратэсты працягваюцца, у выніку сутыкненняў з паліцыяй тры студэнты і восем паліцэйскіх атрымалі траўмы. Па словах мэра Кішынёва, шкода, нанесеная студэнтамі (пабітыя шыбы, вывернутыя пліткі тратуараў) ацэньваецца прыкладна ў 40.000 долараў.

**Мінскі гарвыканкам забараніў правядзенне шэсця «Чарнобыльскі шлях» на 26 красавіка. Але ён дазволіў правесці мітынг на плошчы Бангалор, пачынаючы з 18-й гадзіны. Арганізатары шэсця плануюць, што на акцыю прыйдзе да 100.000 чалавек.**

# Беларусь пастаўляе зброю Садаму Хусейну

**Артыкул «Расія дапамагае аднавіць іракскія сродкі СПА» журналіста Кона Кофліна з *Sunday Telegraph* мы друкуем без змяненняў.**

Расійскія вайсковыя чыны спрабуюць арганізаваць шматмільённую справу з Садамам Хусейнам, якая забяспечыць іракскаму лідэру поўнае аднаўленне сістэмы супрацьпаветранай абароны. Сумнеўная справа, якая з'яўляецца грубым парушэннем эмбарга ААН на гандаль зброяй, была падрабязна абмоўленая паміж Багдадам і вайсковымі экспертамі з былой савецкай рэспублікі Беларусь. У выпадку яе ажыццяўлення Ірак атрымае магчымасць для прыцэльнай паразы брытанскіх і амерыканскіх самалётаў, што патрулююць забароненую для палётаў зону.

Згодна з дамовай, дэталі якой раней узгадваліся ў «Тэлеграф», «Белтэхэкспарт» – беларуская дзяржаўная кампанія, што спецыялізуецца на вайсковай тэхніцы – пагадзілася аднавіць іракскую сістэму СПА, перабудаваць ваенна-паветраныя сілы і правесці падрыхтоўку вайскоўцаў СПА. Памер справы ацэньваецца прыкладна ў 90 мільёнаў долараў. Яна была дамоўленая падчас візіту ў Багдад дэлегацыі беларускіх высокапастаўленых асобаў.

Расія ўпершыню прыняла ўдзел у перамовах у ліпені 1999 г., калі ў яе атрымалася арганізаваць сустрэчу Тарыка Азіза, намесніка прэм'ер-міністра Ірака, і Сяргея Лінга, прэм'ер-міністра Беларусі. Расійцы выступалі ў якасці пасрэднікаў пасля таго, як нюансы іх асабістай сакрэтнай справы па гандлі зброяй у 100 мільёнаў долараў, заключанай паміж Багдадам і ў той час прэм'ерам Расіі Яўгенам Прымаковым, былі агучаныя ў «Тэлеграф» з жорсткай рэакцыяй Захаду.

Каб не моцна раздражняць Захад, асабліва Амерыку, Крэмль аддаў загад пра тое, каб усе наступныя перамовы па пастаўцы зброі ў Ірак праводзіліся ў прысутнасці пасрэднікаў. Высокапастаўленыя дэлегацыі Беларусі і Ірака былі запрошаныя ў Маскву, дзе паміж імі была заключаная дамова, падобная да той, што раней заключалі Хусейн з Прымаковым.

Асноўным кампанентам дамовы стала перабудова супрацьпаветраных ракетаў SA-3, што дазволіла павялічыць радыус іх дзеяння з 12 да 18 міляў. У шэрагу з гэтым планавалася правесці аднаўленне састарэлых іракскіх ракетаў. СПА Ірака мелі намер накіраваць сваіх жаўнераў для праходжання спецыялізаванай кадравай падрыхтоўкі на Беларусь, дзе іх павінны былі б азнаёміць з найноўшым расійскім электронным абсталяваннем. Беларускі бок таксама ўзяў на сябе абавязальніцтвы па рамонце 17 савецкіх самалётаў, што належаць Іраку, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі з канца васьмідзесятых. Папярэдні кантракт па іх тэхнічным абслугоўванні быў разарваны ў сувязі з нявыплатай іракскім бокам патрэбных сродкаў. Аднак пасля таго, як Ірак паабяцаў выплаціць 6 мільёнаў долараў, беларусы пагадзіліся аднавіць працы па капрамонце тэхнікі на заводзе ў Баранавічах.

Заключэннем кантракта з Беларуссю кіраваў асабіста намеснік міністра замежных справаў Ірака Нуры аль Ваіз. Аль Ваіз з'яўляецца блізкім сябрам малодшага сына Садама – Кусэя, які займаецца аднаўленнем вайсковай інфраструктуры краіны.

Заходнія дыпламаты выказалі занепакоенасць апошнімі спробамі Ірака аднавіць войска, асабліва ў кантэксце нядаўніх марных спробаў ААН па ўсталяванні ўзаемаадносінаў паміж Іракам і Захадам. «Любая дамоўленасць, якая дазволіла б Садаму вярнуць былую вайсковую моц, скрайне непажаданая», – заявіў на мінулым тыдні адзін чыноўнік: «Ірак усё яшчэ падвергнуты жорсткім міжнародным санкцыям, якія трэба неадступна выконваць».

**P.S.** Учора, калі матэрыял рыхтаваўся да друку, стала вядома, што ўсе цэнтральныя беларускія газеты надрукавалі своеасаблівы адказ Савета Бяспекі Беларусі на гэтую публікацыю.

Прэс-цэнтр Савета Бяспекі спрабуе пераканаць міжнароднага і беларускага чытача, што брытанская газета памылілася, і прыведзеныя ў ёй звесткі не адпавядаюць рэчаіснасці. Як сцвярджае СБ, «беларускі бок не супрацоўнічаў і не супрацоўнічае з Іракам у ваеннай галіне». Прымаючы ментарскі тон, супрацоўнікі прэс-цэнтра нават мякка дакараюць брытанскае выданне: «Застаецца шкадаваць, што такое аўтарытэтнае выданне, як *The Telegraph*, надрукавала недакладную інфармацыю, якая дэзарыентуе грамадскасць і дыскрэдытуе міралюбную знешнюю палітыку Рэспублікі Беларусь, якая заўсёды строга прытрымлівалася і прытрымліваецца рашэнняў ААН, нормаў і прынцыпаў міжнароднага права».

У савецкія часы існаваў такі анекдот: «Адкуль мы даведваемся пра тое, што адбываецца ў краіне? – З абвяржэнняў ТАСС». Савет Бяспекі паклапаціўся пра тое, каб змясціць абвяржэнне ва ўсіх асноўных дзяржаўных газетах. Але ніводная такая газета не наважылася надрукаваць артыкул з *The Sunday Telegraph*. Атрымліваецца, што чытачам незалежнай прэсы дастаецца інфармацыя, а вось чытачам дзяржаўных выданняў – толькі абвяржэнні. ■

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**950**

## Старшыня АГП – у расійскім эфіры

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

У панядзелак, 17 красавіка, у праграме «Время» Грамадскага расійскага тэлебачання выступаў віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Анатоль Лябедзькі, які за два дні да гэтага быў абраны старшынёй Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Журналіст А.Любімаў, скончваючы размову, падкрэсліў, што «мы ствараем саюзную дзяржаву з Беларуссю, а гэта значыць – не толькі з Лукашэнкам, але і з беларускай апазіцыяй, таму меркаванні Лябедзькі для нас уяўляюць вялікую цікавасць». Спадар Лябедзька казаў пра тое, што Расію дзякуючы палітыцы Лукашэнкі зараз не любіць значна большая колькасць беларусаў, чым дзесяць гадоў таму, што ў Беларусі бясследна знікаюць публічныя палітыкі і што беларуская апазіцыя, у адрозненне ад расійскай, не мае ніякага доступу да СМІ, якія кантралююцца дзяржавай. ■

## Фінансаванне памяншаецца

**Алена ЛАДЫГА**

У Беларусі сёння налічваецца больш за 2 мільёны чалавек, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сярод іх – 11.300 ліквідатараў аварыі, 7.298 з якіх сталі інвалідамі. Такія звесткі прывёў начальнік аддзела праваўой работы і сацыяльнай абароны Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на ЧАЭС пры міністэрстве па надзвычайных сітуацыях Уладзімір Кудзін падчас паседжання «круглага стала», якое прайшло 17 красавіка ў мінскім Доме прэсы. Мерапрыемства было прысвечанае праблемам сацыяльнай абароны ліквідатараў і грамадзянаў, што сталі інвалідамі ў выніку аварыі на ЧАЭС.

Па звестках Камітэта, з прыняццем у лютым 1991 года закона аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы, ільготы былі прадастаўленыя ўсім анкалагічна хворым дзецям, прыраўнаваным да інвалідаў Чарнобыля першай групы, а таксама ўдзельнікам ліквідацыі аварыі ў зонах эвакуацыі, першачарговага і наступнага адсялення. Гэтым катэгорыям грамадзянаў, як было заяўлена на «круглым стале», забяспечаныя штомесячныя выплаты ў памеры трох мінімальных зарплатаў, бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, санаторна-курортнае лячэнне, аплачваемы адпачынак, ільготы па камунальных плацяжах, бясплатнае жыллё і памяншэнне пенсіённага ўзросту.

Разам з тым прысутныя адзначалі, што фінансаванне праграмаў, звязаных з ліквідацыяй наступстваў аварыі на ЧАЭС, з кожным годам памяншаецца. І гэта, нягледзячы на павелічэнне колькасці захворванняў, звязаных з наступствамі радыеактыўнага забруджвання, рост прыроджаных парокаў і розных паталогіяў, зніжэнне экалагічнай якасці сельскагаспадарчых прадуктаў, вырабляемых у краіне. Наступствы чарнобыльскай катастрофы вывучаныя не да канца, а таму, як падкрэслівалася на «круглым стале», вырашэнне гэтых праблемаў – задача навукаёмістая і патрабуе комплекснага падыходу. ■

## Харчаванне і прадукцыя для Чачні

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ**

Гомельскі аблвыканкам выказаў гатоўнасць да супрацоўніцтва з Чачэнскай Рэспублікай па пытаннях пастаўкі харчовых тавараў і прадукцыі першай неабходнасці. Гэты намер адлюстраваны ў лісце гомельскага губернатара Мікалая Вайцянкова на імя паўнамоцнага прадстаўніка ўрада Расійскай Федэрацыі ў Чачэнскай Рэспубліцы Мікалая Кошмана.

Ліст напісаны паводле вынікаў перамоваў кіраўніцтва аблвыканкама з дэлегацыяй Чачні, якая наведала Гомель 14 красавіка. Дэлегацыя праявіла цікавасць да сельскагаспадарчай тэхнікі вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш», будаўнічых матэрыялаў ААТ «Гомельбудматэрыялы», а таксама да харчовых тавараў. Па словах кіраўніка дэлегацыі, выконваючага абавязкі кіраўніка часовай адміністрацыі Чачэнскай Рэспублікі Хасана Мусалатава, разлік за пастаўлены тавар Чачня можа рабіць у любой форме, выключаючы грашовую. У прыватнасці, на абмен прадстаўнікі Чачні прапанавалі нафтапрадукты.

Канкрэтныя аспекты супрацоўніцтва Гомельскай вобласці з Чачнёй і парадак разлікаў будуць узгодненыя дадаткова. ■

## Саюзная групоўка войскаў – справа рэальная

**Алег САКАЛОЎ**

Падчас перамоваў Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна 16 красавіка абмяркоўваліся пытанні стварэння рэгіянальнай групоўкі войскаў, стварэння адзінай сістэмы супрацьпаветранай абароны, выканання сумеснай праграмы развіцця ўзбраенняў да 2001 года і ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва да 2005 года. Пра гэта паведамляе Расійскае інфармацыйнае агенцтва «Новости» са спасылкай на неназванага прадстаўніка Генеральнага штаба Узброеных сілаў Расійскай Федэрацыі.

У інтэрв'ю журналісту РІА «Новости» прадстаўнік Генштаба таксама паведаміў, што зараз склад рэгіянальнай групоўкі поўнасцю вызначаны: яго аснову складуць Узброеныя сілы Беларусі, гэта будзе першы стратэгічны эшалон абароны, а таксама разгорнутыя ў заходнім рэгіёне часці і злучэнні Маскоўскай ваеннай акругі агульнай колькасцю каля 300 тысяч чалавек. «Гэта абсалютна рэальная лічба, і Аляксандр Лукашэнка назваў яе правамернай», – адзначыў расійскі ваенны. ■

## У Віцебску адноўлены бюст А.Суворава

**Леанід СІМАНАЎ**

Напярэдадні Міжнароднага дня помнікаў і гістарычных месцаў, які адзначаецца 18 красавіка, перад будынкам Віцебскага гарадскога ваеннага камісарыята адноўлены помнік расійскаму генералісімусу кацярынінскіх часоў Аляксандру Сувораву. Адбылося гэта больш чым праз 19 месяцаў пасля таго, як у ноч на 1 верасня 1998 года легендарны Мірон пакінуў тут, на апусцелым пастаменце, запіску: «У 1794 годзе Суворап утапіў у крыві паўстанне беларусаў за незалежнасць... Помнікі Сувораву на Беларусі – гэта ганьба беларускага народа...»

Дэманціраваны помнік знайшоўся ўжо 2 верасня 1998 года. Тады ж па падазрэнні ў «знішчэнні гісторыка-культурных каштоўнасцяў» быў арыштаваны старшыня віцебскай рады «Выбар» БНФ Уладзімір Плешчанка, які правёў сем месяцаў у следчым ізалятары. Пасля гэтага, з-за парушэнняў працэсуальнага заканадаўства, выяўленых у дзеяннях папярэдняга следства, суд вызваліў У.Плешчанку з-пад варты, а саму справу адправіў на дадатковае расследаванне. Да гэтага часу, аднак, нічога так і не праяснілася.

Рашэнне гарадскіх уладаў аднавіць бюст генералісімуса расцэньваецца ў Віцебску па-рознаму. Частка гараджанаў гэты факт вітае. У той жа час існуе і супрацьлеглы пункт гледжання, згодна з якім, час, выбраны для вяртання бюста, звязаны не з памятным днём ЮНЕСКА, а з «рэстаўрацыяй Расійскай імперыі дэмакратычным шляхам».

Адноўлены бюст перададзены на баланс ваенкамата. ■

**ФОТАФАКТ**



Вясна. Першыя пралескі

## Правозащитник лишил чести судью

**Данила ХАЛЕЦКИЙ**

Об этом громогласно заявила судья Партизанского района Минска Жанна Хвойницкая, подав в суд иск о защите чести и достоинства. Как следует из искового заявления, Валерий Щукин поставил под сомнение профессионализм и деловую репутацию судьи Хвойницкой. Причем сделал это публично, рассказав в «Народной воле» (№ 26 за 10.02.2000 г.), как Жанна Анатольевна «приговорила» рабочего МАЗа Николая Романова к штрафу, эквивалентному его годовой зарплате.

Судя по всему, судья Хвойницкая – «агент» оппозиции во властных структурах – такие непомерные штрафы явно направлены на подрыв устоев нынешнего режима. Ведь, как гласит новейшая история, в начале этого века российский император лишился престола из-за массовых политических забастовок рабочих, которых царские «вертикальщики» также подвергали многочисленным штрафам. И хотя штрафы того времени, не в пример нынешним, не превышали даже месячного заработка, рабочие поддержали призывы большевиков и... вышли на улицы.

Печальна судьба того царя.

Как считает Жанна Анатольевна, ее деловая репутация пострадала из-за предположений Валерия Щукина, что судья Хвойницкая вершит правосудие, не заглядывая в Административный кодекс. Но своим иском к Валерию Щукину предположение в непрофессионализме Жанна Анатольевна лишь подтвердила. Выяснилось, что данный юрист не открывает и Гражданский процессуальный кодекс. Ведь в соответствии с общими правилами подсудности, заявление о возбуждении дела подается в суд по месту жительства ответчика или по месту нахождения юридического лица (статья 46 ГПК).

Но Валерий Щукин проживает в г.Полоцке, а редакция «Народной воли» располагается в трех шагах от суда Ленинского района столицы. Юрист же «высшей» квалификации Жанна Хвойницкая подала иск в суд... Советского района Минска, указав адрес ответчика В.Хоружей, 13. Но там расположена типография, которая к В. Щукину и содержанию того, что он пишет, никакого отношения не имеет. Между тем моральный ущерб от сомнения в ее профпригодности Жанна Хвойницкая оценила в два миллиона рублей новыми.

Комментарии, как говорится, излишни. ■

## Рэгістрацыя Маладога Фронту

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

Маладыя людзі з БНФ вырашылі зарэгістраваць у міністэрстве юстыцыі арганізацыю пад назвай Малады Фронт. 16 красавіка прайшоў Устаноўчы сход па стварэнні вышэйназванай арганізацыі, на якім прысутнічала 65 дэлегатаў. На ўсе кіруючыя пасады былі абраныя людзі, якія да гэтага, хоць і нефармальна, але ўжо выконвалі такія ж функцыі. Старшынёй Маладога Фронту стаў Павел Севярынец.

Дакументы ў мінюст будуць пададзеныя ў бліжэйшыя дні. Правядзенне пазачарговага з'езда, на якім адбудзецца пераабранне старшыні, намеснікаў і кіруючых органаў, прызначанае на пачатак ліпеня. ■

## «Вайны не будзе!»

**Аляксей СТАЎСКІ**

Пікет у падтрымку прыняцця закона аб альтэрнатыўнай службе і супраць прымусовага размеркавання выпускнікоў вышэйшых навучальных установаў правядзе 23 красавіка з 12 па 14 гадзіну на плошчы Бангалор маладзёжная арганізацыя сацыял-дэмакратычнага накірунку «Маладая Грамада». Акцыя мае назву «Вайны не будзе!» і санкцыяваная Мінгарвыканкамам. ■

## Пяцігодка «Аб'яднанага шляху»

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

Адзначыла сваё пяцігоддзе Беларускае рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Аб'яднаны шлях». На яго базе на працягу гэтага часу дзейнічае Цэнтр развіцця грамадскіх аб'яднанняў, дзе яны могуць бясплатна карыстацца аргтэхнікай і бібліятэкай. Супрацоўнікамі Цэнтра праводзяцца кансультацыі па юрыдычных аспектах дзейнасці арганізацыяў, ладзяцца вучэбныя семінары, трэнінгі і «круглыя сталы».

На святочнай вечарыне, якая адбылася 18 красавіка, «Аб'яднаны шлях» прэзентаваў другое выданне даведніка «Падтрымка грамадскай супольнасці на Беларусі: Даведнік грантадаўцаў». Выданне ўтрымлівае інфармацыю пра 39 фондаў і арганізацыяў, якія аказваюць фінансавую і іншыя віды падтрымкі беларускім грамадскім аб'яднанням. ■

## Журналісты сведчаць у пракуратуры

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

20 красавіка скончыўся тэрмін, адведзены пракуратуры горада Мінска на расследаванне падзеяў 25 сакавіка і канкрэтна справы з затрыманнем журналістаў беларускіх незалежных газетаў і расійскіх тэлекампаніяў. Следчая пракуратуры Вікторыя Генадзеўна Кукса па чарзе выклікала і дапытала ўсіх журналістаў, пра затрыманне якіх паведаміла Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ), і ўзяла ў іх паказанні адносна таго, як праводзілася затрыманне, ці наносіліся пабоі і г.д. Цяпер справа перададзеная на разгляд пракурору горада альбо яго намесніку.

Выклікае цікавасць, што следчая задавала некаторым дапытваемым пытанне, ці не ведаюць яны, хто аддаваў загады аб затрыманні і аб вызваленні журналістаў.

Наўрад ці да віноўнікаў здарэння будуць прынятыя нейкія жорсткія меры, але, магчыма, у наступны раз міліцыя будзе абыходзіцца з журналістамі больш карэктна. ■

## Дзіцячы праект «Наш свет»

**Алена ЛАДЫГА**

Грамадская арганізацыя «Маладзёжны адукацыйны цэнтр «Фіяльта» пры падтрымцы прадстаўніцтва ЮНІСЕФ у Беларусі пачынае рэалізацыю ў рэспубліцы праекта «Наш свет».

Рэалізаваць праект плануецца на працягу 2000 года. Яго мэта – фарміраванне ў грамадстве зацікаўленага стаўлення да выканання правоў дзіцяці, абвешчаных адпаведнай канвенцыяй ААН, і ў цэлым да здаровага ладу жыцця.

У межах праекта пройдуць тры міжнародныя дзіцячыя акцыі, звыш дваццаці адукацыйных праграмаў, «круглыя сталы» і прэс-канферэнцыі. ■

## КДБ – ФСБ: «победила дружба»

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

Унічыю 2:2 завяршыўся 15 красавіка ў спорткомплексе «Раўбічы» пад Мінскам таварыскі матч па валейболе паміж камандамі кіраўніцтва Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі і Федэральнай службы бяспекі Расіі.

Як паведаміў начальнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі Фёдар Котаў, асноўны час матча завяршыўся перамогай беларусаў 2:1, а суцяшальную, чацвёртую партыю яны прайгралі. Капітанам беларускай зборнай быў першы намеснік старшыні КДБ Леанід Ерын, расійскай – намеснік дырэктара ФСБ Віктар Калмагораў. ■

## Поўная інтэграцыя

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Проста жудасна «паздзекавалася» юніёрская зборная Расіі па хакеі з шайбай над аднагодкамі з Беларусі на стартаваўшым у Швейцарыі чэмпіянаце свету ў групе «А» сярод юнакоў да 18 гадоў. Калі ва ўсіх астатніх гульнях лік быў звычайны і агульная колькасць закінутых шайбаў не перавышала 5-6, дык лік 1:18, з якім пацярпелі паразу беларусы, проста шакіруе. Па словах людзей, якія бачылі гульню, на матч з беларусамі расіяне выйшлі настроеныя надзвычай ваяўніча.

У другім матчы беларусы прайгралі славацкім юніёрам з лікам 1:7. ■

# Беспрэцэдэнтны дакумент

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Кангрэс выразна заявіў пра тое, што тэрмін паўнамоцтваў Лукашэнкі скончыўся ў ліпені мінулага года. Раней гаварылася толькі пра яго дэмакратычную нелегітымнасць. Пры гэтым гэтаксама выразна была выказаная падтрымка Вярхоўнаму Савету Беларусі.

Калі параўнаць папярэдні праект рэзалюцыі, таксама падрыхтаваны кангрэсменам Гэйдэнсанам у лістападзе мінулага года, дык бачна, наколькі ўважліва амерыканскія кангрэсмены сочаць за развіцём беларускай сітуацыі. Іх пазіцыя становіцца больш жорсткай, бо ніякіх пазітыўных зменаў у нас у краіне не адбываецца. Усё ж пакуль рэзалюцыя носіць папераджальны характар. Аднак, калі нічога не будзе мяняцца, можна чакаць канкрэтных палітычных крокаў ЗША як у адносінах да Беларусі, так і ў адносінах да Расіі.

А вось як пракаментаваў тую ж рэзалюцыю ў інтэрв'ю радыё «Свабода» лідэр Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ **Зянон ПАЗЬНЯК**:

– Уся палітыка ЗША ў дачыненні да Беларусі аказалася памылковай. У апошні час, калі я быў у Вашынгтоне, я казаў, што стаўка на маргінала, на маргінальныя структуры, якую зрабілі амерыканскія палітыкі ў Беларусі, аказалася нікчэмнай, усе гэтыя невялікія сродкі пайшлі ў пясок. І яны гэта прызналі. Стаўку трэба рабіць на беларускі нацыянальна-вызвольны рух.

Я гляджу даволі песімістычна на гэта. Думаю, што тыя заявы, якія зрабіла Амерыка адносна рускай палітыкі, будуць мець даволі палавінчаты характар – яна яшчэ не гатовая памяняць сваю палітыку. А што датычыць пытання падтрымкі нацыянальна-вызвольнага руху, то гэта таксама патрабуе дастатковага часу, каб змяніць свае прыярытэты.

А вось меркаванне старшыні партыі БНФ **Вінцука ВЯЧОРКІ**:

— Я вельмі ўсцешаны, што наша праца, ў тым ліку і па арганізацыі масавых акцыяў, нарэшце дала плён — у выглядзе рэзалюцыі Кангрэса ЗША. Грамадская думка і палітычныя колы Амерыкі беспрэцэдэнтна востра прарэагавалі на падзеі 15 і 25 сакавіка. Я таксама вельмі ўсцешаны, што была нарэшце прама названая крыніца трываласці Лукашэнкі – гэта Масква. Рэзалюцыя ўказвае на недапушчальнасць такой падтрымкі для дыктатуры. ■

ЗАМЕЖЖА

## Аўстрыя хоча судзіцца

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Аўстрыя падае ў суд на краіны Еўрасаюза. Пра гэта абвясціў канцлер краіны Вольфганг Шусель.

«Аўстрыйскі ўрад мае намер прадпрыняць усе магчымыя юрыдычныя крокі ў гэтым накірунку», — заявіў В.Шусель у інтэрв'ю венскай газеце *Die Presse*. Канцлер не пажадаў далей абмяркоўваць гэтую тэму, але падкрэсліў, што Аўстрыя не збіраецца парушаць дзейныя дамовы ЕС. На думку В.Шуселя, ягоная краіна мусіць перш за ўсё прыцягнуць на свой бок еўрапейскую грамадскасць.

Як вядома, урад краіны апынуўся ў аднабаковай міжнароднай ізаляцыі з боку астатніх 14 краінаў-чальцоў Еўрасаюза з-за ўдзелу ў ім прадстаўнікоў праварадыкальнай Партыі Свабоды. ■

## Парушальнікі – Куба, Югаславія і Ірак

**Міхась КАРПОВІЧ**

Камісія па правах чалавека ААН асудзіла Кубу, Югаславію і Ірак за парушэнні правоў чалавека. У сераду ў Жэневе Камісія прыняла адпаведную рэзалюцыю. Рэзалюцыя крытыкуе Кубу за ўціск свабоды рэлігіі і палітычнага іншадумства, а Югаславію — перш за ўсё за ўціск супраць свабоды меркаванняў. Што датычыць Ірака, то яго абвінавачваюць у катаваннях і ўціску апазіцыі.

Разам з тым, рэзалюцыя па асуджэнні Кітая, прапанаваная ЗША, не прайшла, хоць за яе галасавалі 15 краінаў. ЗША ўжо прапаноўвалі асудзіць Кітай на ўзроўні ААН некалькі гадоў таму, але справа так і не зрушылася з мёртвай кропкі.

У адказ на крытыку ААН кубінская ўлады вывелі на вуліцы Гаваны каля 100 тысяч чалавек, якія прайшлі маршам да амбасады Чэхіі. Справа ў тым, што Чэхія, як і Польшча, падтрымала «крытычную» рэзалюцыю. Удзельнікі акцыі назвалі абедзве гэтыя краіны «здрадніцамі і лёкаямі Вашынгтона». ■

## Blue Russia – Сіняя Русь...

**Ірына СТАРЦАВА**

На магілёўскае прадпрыемства «Хімвалакно» прыйшоў ліст ад бізнес-партнёраў з Ірана. Здавалася б, што тут дзіўнага? Дзіўным аказалася назва краіны ў адрасе на канверце: не Беларусь (*Belarus*), як, уласна кажучы, і мае быць, не Беларусія (*Byelorussia*), нават не Белая Русь (*White Russia*), як на самым пачатку беларускай незалежнасці пісалі некаторыя замежнікі, якія не паспелі разабрацца ў новых геаграфічных зменах... Усё куды цікавей: іранцы ўхітрыліся напісаць *Blue Russia* (Сіняя, або нават Блакітная Русь)!

Як вядома, «сінімі» ў беларускім, як і расійскім грамадстве, называюць альбо апошніх алкаголікаў, якія даўно спіліся, альбо «зэкаў» – з-за колеру наколак, якіх багата на кожным крымінальніку.

Што ж датычыць «блакітных», то нават дзеці ведаюць, што так называюцца мужчыны з нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй.

Дарэчы, у англійскай мове ў слова *blue* ёсць яшчэ адно значэнне: сумны, маркотны, тужлівы. Дык цікава, якой жа Руссю хацелі назваць нашу Беларусь бізнесмены з Ірана? ■

## Са святам Уваскрашэння Божага

**БелаПАН**

Кардынал Казімір Свёнтэк, архібіскуп, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, апостальны адміністратар Пінскай дыяцэзіі павіншаваў рымска-каталіцкі касцёл краіны з надыходзячым святам Уваскрашэння Божага, якое будзе святкавацца вернікамі-каталікамі ў нядзелю, 23 красавіка.

У пасланні гаворыцца, што касцёл вельмі ўрачыста адзначае гэтую велікодную радасць, бо яна «ўзнікае ў глыбіні пакуты, смерці і ўваскрашэння Хрыста, змяняе жыццё хрысціяніна, надае яму новую якасць, якая выходзіць за межы зямнога жыцця і ўводзіць у сферу вечнасці».

Кардынал адзначае, што сапраўднай велікоднай радасці можна дасягнуць толькі тады, калі ў ёй удзельнічае і душа, і цела чалавека, які можа «з радасцю адказаць жыццём, падобным Яго жыццю».

«Праўда пра Уваскрашэнне Ісуса Хрыста нас радуе і суцяшае, бо яна змяняе нас духоўна, адкрывае для дабра, адчышчае ад зла, пашырае нашы жыццёвыя перспектывы на ўсю вечнасць», — падкрэсліваецца ў пасланні. Кардынал заўважае, што велікодная радасць звязаная таксама з заснаванай на Божым праве, правільна зразумелай свабодай, дзякуючы якой «любоў у нашых сэрцах здольна пераадолець самыя цяжкія праблемы людскога жыцця і абудзіць у нас бязмежную надзею». ■



Фота IREX/ProMedia

## Дазвол на другое дзіця

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



Афіцыйныя прадстаўнікі Пекінскага ўпраўлення планавання сям'і паведамілі, што з 1 красавіка гэтага года пекінскім сем'ям дазволена заводзіць двух дзетак. Рашэнне крыху аслабіць кантроль над ростам народанасельніцтва матывуецца эканамічнымі прычынамі і ростам заможнасці шмат якіх кітайскіх сем'яў.

Як вядома, яшчэ з пачатку 70-х гадоў у Кітаі дзейнічае забарона заводзіць у сям'і больш за адно дзіця – каб штучна абмежаваць рост насельніцтва гэтай краіны. Жорсткі кантроль за ўзроўнем нараджальнасці ў агульнакітайскім маштабе не датычыў толькі Тыбета і некаторых асобных рэгіёнаў, дзе жылі прадстаўнікі розных нацыянальных меншасцяў. ■

## Еўропу чакае эканамічны рост

**Міхась КАРПОВІЧ**

Шэсць лідзіруючых навукова-даследчых эканамічных інстытутаў Германіі апублікавалі ў Берліне традыцыйны вясновы агляд стану эканомікі Германіі і свету. Эксперты па пытаннях кан'юнктуры прагназуюць для Германіі на гэты і наступны гады эканамічны рост у 2,8%. Гэта самы высокі паказчык з 1991 года. Адначасова прадказваецца скарачэнне чатырохмільённага беспрацоўя на 600 тысяч чалавек – гэта таксама мусіць адбыцца на працягу 2000 і 2001 гадоў. Праўда, узровень спажывецкіх цэнаў таксама ўзрасце – на паўтара працэнта.

Што датычыць Еўропы, то, на думку нямецкіх вучоных, развіццё эканомікі ў еўрапейскай прасторы будзе ісці ў 2001 годзе больш інтэнсіўна, чым у ЗША. Аднак гэта толькі дазволіць еўрапейцам вярнуцца на ўзровень 1997 года – таго, што існаваў да пачатку эканамічнага крызісу ў Азіі. Амерыканская ж эканоміка замарудзіць свой рост практычна да еўрапейскага ўзроўню. ■

## Аўрал на лёдавым палацы

**Галіна КАЗІНЕЦ**

Дарагой і непрыгожай назваў брэсцкую новабудоўлю №1 віцэ-прэм'ер Генадзь Навіцкі, які прыехаў інспектаваць ход работ на будучым зімовым стадыёне. У прысутнасці старшыні аблвыканкама Васіля Далгалёва госць вельмі крытычна паставіўся да прызначанай на 3 ліпеня прэзентацыі будынка. Ля сценаў і ўнутры аб'екта 350 рабочых. «Мала людзей», — папракнуў Навіцкі Далгалёва.

Лёдавы палац у Брэсце ўзвышаецца зараз ўпоруч з лёгкаатлетычным манежам. Знешне між імі ніякіх кантрастаў. Але для мясцовых людзей будынкі аднолькавай прамавугольнай формы адлюстроўваюць розныя эпохі. Манеж – тыповы даўгабуд савецкага часу, а палац – штурмавы аб'ект фантастычных тэрмінаў і казачнага фінансавання. Кожны дзень з 8 да 21 гадзіны на будоўлі занята 800—900 чалавек. Масоўка з розных будаўнічых кантораў расстаўленая ля смецця, бруднай падлогі і заляпаных вокнаў. Імідж недабудаванага палаца будзе падмацаваны знешнімі дадаткамі. У прыватнасці, стадыён для бейсболу («амерыканская лапта») зойме правую ад уваходу ў палац пляцоўку. Злева насыпаюць чарназём пад газоны і два бульвары. Распрацоўваюцца спецыяльныя шчыты для падлогі, якія маглі б вытрымаць грандыёзны сцэнічны канцэрт. ■

## «Вольныя танцы» пад узмоцненай аховай

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

19 красавіка ў канцэртнай зале «Мінск» прайшла прэзентацыя кампакт-дыска «Вольныя танцы. Новая альтэрнатыва». Новы праект Беларускай Музычнай Альтэрнатывы (БМА) уяўляе сабой чарговую зборку хітоў беларускіх гуртоў у адным кампакце. У альбом увайшлі як добра вядомыя аматарам беларускага рока рэчы («Радыё Свабода» гурта «Уліс», «Звёздочки» «Нейра Дзюбеля»), так і песні, якія яшчэ нідзе не гучалі. На кампакце прысутнічаюць улюблёнцы публікі гурты НРМ з «Маёй ментальнасцю», «Новае Неба» з песняй «Котка», «Палац», «Крыві» ды іншыя карыфеі. Але ёсць і маладыя калектывы тыпу «Юр'і» альбо «Long play». Ёсць замежны (польскі) гурт «R.F.Braha». Агульная канцэпцыя альбома складаецца з прынцыпаў, каб пад гэтую музыку можна было танцаваць і каб музыка была беларускай. І трэба сказаць, складальнікам альбома гэта ўдалося, дыск «заводзіць» з паўабарота. Зрэшты, зараз ён з'явіўся ў продажы, і кожны можа сам ацаніць яго вартасць. Дыск таксама быў разасланы на ўсе ФМ-станцыі, так што песні з яго радыёслухачы смела могуць замаўляць для гучання ў эфіры.

На самой жа прэзентацыі міліцыяй былі прынятыя ўзмоцненыя меры бяспекі. У зале праз кожныя 10 метраў стаяў ахоўнік правапарадку і старанна спыняў любыя спробы гледачоў патанцаваць пад любімыя мелодыі. Музыканты, адчуўшы атмасферу ў зале, падтрымоўвалі слухачоў. Так, саліст гурта «Нейра Дзюбель» Аляксандр Кулінковіч у сваёй песні «Ехали уроды на поминки» замяніў апошняе слова на «Дажынкі».

Год таму выйшаў першы кампакт-альбом БМА «Вольныя танцы. Слухай Сваё». Хочацца, каб «альтэрнатыўшчыкі» гэтак жа рэгулярна радавалі аматараў беларускага рока сваімі праектамі, якія, хоць і маленькі, але астравок у моры таннай «папсы» і падобных падробак пад музыку. ■

## Кожную школу – у Інтэрнэт

**Ірына СТАРЦАВА**



Выступаючы на штогадовай камп'ютэрнай выставе ў Чыкага, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан паабяцаў, што да заканчэння 2000 года ўсе амерыканскія школы атрымаюць бясплатны доступ у Інтэрнэт. Па ягоных словах, дзеля гэтай мэты ўжо распрацаваная адмысловая дзяржаўная праграма.

Як заявіў амерыканскі прэзідэнт, 7 гадоў таму ў ЗША да Інтэрнэта былі падключаныя толькі 7% школаў. На сённяшні дзень гэты паказчык складае 95%, дзве трэція класных пакояў маюць асобныя бясплатныя выхады ў камп'ютэрную сетку, удакладніў Б.Клінтан.

Дзяржаўная праграма «інтэрнэтызацыі» амерыканскіх школаў каштуе бюджэту ЗША некалькі соцень мільёнаў долараў. З гэтых сродкаў 150 мільёнаў выдаткоўваюцца на навучанне настаўнікаў новым камп'ютэрным тэхналогіям і карыстанню Інтэрнетам – «каб настаўнікі не траплялі ў няёмкае становішча перад вучнямі, якія ведаюць больш за іх», – падкрэсліў Б.Клінтан. ■

